КРЫНІЦА
№5 Ліпень, 2009 www.bchd.info

# БУДСЛАЎ: БУДЗЕМ СЛАВІЦЬ БОГА!

## Хто ня быў у Будславе – той ня бачыў будучай Беларусі.

Будслаўскі фэст – найвялікшая ў Беларусі хрысьціянская сустрэча. Дзясяткі тысячаў людзей, якія верацць у Бога і любяць сваю Радзіму, зьбіраюцца разам дзеля супольнага пакланеньня і малітвы.

Фэст арганізоўваецца Каталіцкім Касьцёлам, але штогод у ім удзельнічае усё больш праваслаўных і пратэстантаў. Сапраўднае нацыянальнае сьвята!

Шанаваньне Маці Божай у Будславе мае 500-гадовую гісторыю, і для беларускіх каталікоў Будслаўскі касьцёл – адзін з галоўных санктуарыяў, цэнтраў пакланеньня Богу. Гаспадарамі Фэсту лічацца манахі з ордэну бэрнардынаў. Штогод да пачатку ліпеня сюды пехатою з розных гарадоў сыходзяцца тысячы пілігрымаў, дзясяткі тысячаў прыяжджаюць на асноўныя ўрачыстасьці 1 - 2 ліпеня.

Праграму Будслаўскага фэсту складаюць набажэнствы (як рыма-каталіцкія, так і грэка-каталіцкія, маладзёвыя, начныя), канцэрты і грандыёзная працэсія з запаленымі сьвечкамі. У апошнія гады адных толькі прычасьцяў на галоўнай імшы ўдзялялася ад 30 да 45 тысячаў.

Летась Будслаўскі фэст быў найвялікшай аўдыторыяй у краіне, дзе прагучала (з амбону!)- «Жыве Беларусь!» і дзе луналі бел-чырвона-белыя сьцягі Хрыста.

Будслаў – гэта адкрыцьцё: якой будзе Беларусь заўтра. Дзесяткі тысячаў прыстойных, прыгожых,






ветлівых людзей, якія моляцца да Бога, гавораць на роднай мове, сьпяваюць - разам, дружна! – адно з наймацнейшых відовішчаў сярод нашае звыклае шэрасьці, абыякавасьці й заняпаду. Колькі бел-чырвона-белых значкаў – сымбаляў Плоці і Крыві Ісуса! Колькі сьветліні й радасьці!

Ніколі не забудуся сцэнкі, пабачанай пару гадоў таму. На плошчы перад Касьцёлам сярод вернікаў зьявілася кампанія мясцовых разявакаў, прыцягнутых шумам ды зграмажджэньнем людзей. Ідуць сабе скрозь сьвяточны рух, боўтаюцца ў руках бутэлькі, нехта нападпітку, нехта гучна ляпнуў матам… У гэты момант паў-плошчы азірнулася паглядзець: х т о. Нават нічога не сказалі – але хлопцы, убачыўшы ўсеагульнае недаўменьне, раптоўна схамянуліся, пахавалі сваю гарэлку і бокам, бокам, хутчэй – прэч адтуль. Калі ў самім паветры – нецярпімасьць да хамства, грубасці, грэху – чуеш: тут ня проста дух еднасьці ці дух сьвята. Тут Дух Сьвяты.

«Схадзіць у Будслаў!» Сказаць, што гэта пажаданьне або парада для хрысьціянскага дэмакрата, недастаткова. Калі Вы вернік, актывіст, патрыёт – гэта абавязак.

Схадзіць у пілігрымку. Да сьвятыні. Да Беларусі. Да Бога.

Няважна – каталікі Вы, праваслаўныя ці пратэстанты.

Многія пілігрымы бяруць з сабой камень – як знак тых грахоў, за якія яны нясуць пакаяньне. З прынесеных камянёў у Будславе ўжо немалая гара.

Пілігрымка ў Будслаў – гэта цудоўная духоўная падзарадка. Прарыў пасля будняў млявасьці, нежаданьня маліцца, адсутнасьці радасьці, паныласьці – да сьвежага ветру ды Боскага сьвятла!

Пілігрымка ў Будслаў – выдатная магчымасьць навязаць знаёмствы зь дзесяткамі, а то й сотнямі братоў і сёстраў. Далучыцца да цікавых ініцыятываў, запрасіць да супрацы. Столькі моладзі! Столькі энэргіі! Столькі веры!



Пілігрымка ў Будслаў – унікальнае кшталтаваньне асобы. Сьвятары, нэафіты, падзьвіжнікі, музыкі, мастакі, бывалыя пілігрымы – проста адна сям'я.

Пілігрымка ў Будслаў – правобраз таго шляху да сапраўднае Беларусі, які нам усім – усёй нацыі – давядзецца прайсьці. Фокусаў – «хоп! – і мы ў сьветлае будучыні» – ня будзе. Наперадзе нялёгкая дарога. Але з Богам – ВЕРЫМ, МОЖАМ, ПЕРАМОЖАМ!

*Рэдактар*

**P.S. Поўная інфармацыя пра Фэст ды як далучыцца да адной зь пілігрымак – на сайце www.catholic.by або www.westki.info, ці праз тэлефон – 8 029 7653692 (Ірына).**



# У БЕЛАРУСІ ПРАЙШОЎ ТЫДЗЕНЬ АКЦЫЯЎ У АБАРОНУ СЯМ'І

**Серыя акцыяў БХД у абарону жыцця, прымеркаваная да Міжнароднага дня абароны дзяцей, цягам тыдня ахапіла больш за 40 гарадоў Беларусі.**

Першым стартаваў Віцебск. Яшчэ 30 траўня тут прайшла міжканфесійная канферэнцыя«Не забі». Удзельнікі праслухалі лекцыю, праглядзелі антыабортны фільм. Акрамя гэтага, быў выступ урача-псіхіятра, які распавёў пра постабортны сіндром у тых, хто вырашыўся перарваць цяжарнасць.

У **Віцебску** ўсе гэтыя дні ішоў таксама распаўсюд інфармацыйных матэрыялаў на гэтую тэматыку. Актывісты БХД абыйшлі жаночыя кансультацыі, абартарыі, дзе раздалі ўлёткі, плакаты, налепкі.

У **Гарадку** 3 чэрвеня адбылася размова ўрача з навучэнцамі сельскагаспадарчага каледжа на тэму здаровага ладу жыцця.

Гарадоцкія актывісты БХД таксама сабралі дзіцячую вопратку і цацкі, якія перадалі ў мясцовы праваслаўны прыход.

У пасёлку **Барань** і **Воршы** 1 чэрвеня прайшлі конкурсы малюнкаў«За жыццё». У цэнтры Воршы – ля мясцовага абартарыя – з'явілася расцяжка с тэкстам«Аборт – гэта забойства».

У **Глыбокім** прадстаўнікі БХД сабралі дзіцячыя кнігі і перадалі іх у прытулак. На тыдні прайшлі адмысловыя набажэнствы ў абарону жыцця.

Такія ж набажэнствы адбыліся і ў **Мёрах**.

У **Полацку** таксама распаўсюджваліся інфармацыйныя матэрыялы.

У **Гародні** ўлады забаранілі правядзенне пікету ў абарону жыцця. Актывісты распаўсюдзілі інфармацыйныя матэрыялы.

У **Карэлічах**, **Слоніме**, **Навагрудку**, **Лідзе** арганізаваны прагляд антыабортных фільмаў, распаўсюджваліся дыскі з матэрыяламі кампаніі«Моцная сям'я – моцная Беларусь», улёткі і плакаты.

У **Мінску** пікеты супраць абортаў і алкагалізму таксама не дазволілі. Акрамя распаўсюду інфармацыйных матэрыялаў, актывісты БХД правялі акцыю«Цудоўны плот». У адным з двароў Мінска шэры плот з калючым дротам ля дзіцячай пляцоўкі ператварыўся ў плот з намаляванымі казачнымі героямі.




У **Нясвіжы** раздаваліся ўлёткі, матэрыялы пра шкоду абортаў, палення і алкагалізму.

У **Магілёве** студэнты ўніверсітэту праслухалі лекцыю ў абарону жыцця.

У **Клічаве** сабраныя цацкі для дзіцячага прытулку.

У **Гомелі** раздаваліся ўлёткі і дыскі ля мясцовага ўніверсітэту.

У **Рэчыцы** арганізаваныя прагляды антыабортных фільмаў у інтэрнатах аграрнага і педагагічнага вучылішчаў. Там жа раздаваліся інфармацыйныя матэрыялы. Рэчыцкія актывісты таксама правялі апытанне жыхароў гораду наконт іх дасведчанасці пра наступствы абортаў і алкагалізму.

У **Берасці** актывісты БХД раздалі каля 300 улётак з інфармацыяй пра наступствы абортаў ды небяспеку пашырэння алкагалізму сярод моладзі Беларусі. У акцыі таксама ўдзельнічалі прадстаўнікі«Маладога Фронту.»

Паводле рэгіянальных актывістаў, на ініцыятыву хрысьціянскіх дэмакратаў заўважаная толькі станоўчая рэакцыя грамадзянаў.

- *Паколькі гэта была першая кампанія ў абарону сямейных каштоўнасцяў, якая праходзіла адначасова ў розных гарадах за кароткі прамежак часу, то, лічу, шмат у чым яна атрымалася*, - распавёў прэсавай службе БХД сустаршыня партыі і ініцыятар кампаніі«Моцная сям'я – моцная Беларусь» **Аляксей Шэін.**







# БЕЛАРУСКІЯ УЛАДЫ ПАВІННЫ ТЭРМІНОВА СПЫНІЦЬ СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Заклікаю тэрмінова спыніць прымяненне смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь.

Як палітык я падтрымліваю патрабаванні Еўрапейскага звяза аб спыненні практыкі смяротнага пакарання. Сёння Беларусь -- адзіная еўрапейская краіна, у якой дзяржава валодае правам пазбаўляць людзей жыцця. Гэта выглядае дзікунствам і адштурхоўвае ўсе цывілізаваныя краіны свету ад Беларусі, стварае перашкоды ў палітычных стасунках, робіць негатыўным імідж нашай краіны ў свеце.

Як грамадзянін краіны, я пратэстую супраць таго, каб ад імя усіх грамадзянаў Беларусі ўлады пазбаўлялі людзей жыцця. У судовай практыцы вядома шмат выпадкаў, калі нявінныя людзі былі асуджаныя да смяротнага пакрання. Нават калі уявіць, што праз такі закон можа быць забіты хоць адзін нявінны чалавек, то адно гэта вымагае неадкладнага спынення практыкі ўзаконеных забойстваў. На жаль, як вядома, нявінныя ахвяры (і не адна!) былі ва ўсіх краінах, дзе прымянялася смяротнае пакаранне…




*Віталь Рымашэўскі, сустаршыня БХД, кандыдат у прэзідэнты РБ ад БХД*

Як хрысціянін ведаю, што права даваць і забіраць жыццё ў чалавека мае толькі Бог. XX стагоддзе перапоўнена ахвярамі свецкіх дзяржаў -- фашысцкай Германіі і Савецкага Саюза, якія абсалютна законна, паводле легітымна прынятых у іх законах забілі мільёны людзей, у тым ліку тысячы хрысціян за іх веру.

Хрыстос быў асуджаны паводле іудэйскіх і рымскіх законаў і пакаранны смяротным пакараннем. Такім чынам Ён такасама адна з ахвяраў нявінна асуджаных на смерць. І наш абавязак, як хрысціянаў, у імя многіх тысяч пакутнікаў, у імя Хрыста, -- бараніць жыццё.

Таму хрысціянскія дэмакраты паўсюль і паслядоўна выступаюць у абарону жыцця. І, перадусім, мы абавязаны бараніць жыццё чалавека, як у пытанні абортаў, так і ў пытанні смяротнага пакарання.

# ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ: ПЕРАМОГА НАРОДНАЙ ПАРТЫІ НА ВЫБАРАХ У ЕП – ШАНЕЦ ВЯРНУЦЬ ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ КАШТОЎНАСЦІ Ў АГУЛЬНАЕЎРАПЕЙСКУЮ ПРАСТОРУ



- На выбарах у Еўрапейскі парламент перамогу атрымалі тыя сілы, якія стаяць на той жа платформе, што і БХД – хрысьціянскія каштоўнасці і патрыятызм, - зазначыў у каментары прэсавай службе«Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» сустаршыня партыі Павал Севярынец. – Цэнтр цяжару зараз, цэнтр прыняцця рашэнняў – гэта правы цэнтр. Больш актыўныя еўрапейцы, якія якраз такі прымалі ўдзел у выбарах, пацвердзілі, што хочуць бачыць Еўропу, пабудаваную на прынцыпах маральнасці, персаналізму, самакіравання.

Мы віншуем тых нашых партнёраў, якія перамаглі ў бліжэйшых з Беларуссю краінах – Польшчы, Нямеччыне, Галандыі, Літве. Што азначае перамога хрысьціянскіх дэмакратаў на еўравыбарах для Беларусі? Гэта шанец весці інтэграцыю з Еўропай, зыходзячы з каштоўнасцяў, а не з інтарэсаў. Таму еўрапейская інтэграцыя з Беларуссю будзе больш адказнай, будзе больш грунтавацца якраз такі на маральным фундаменце. Гэта шанец вярнуць хрысьціянскія каштоўнасці ў агульнаеўрапейскую прастору на заканадаўчым, эканамічным, палітычным узроўнях.

*Прэсавая служба«Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі»*

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект«ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у«Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем **Франьцішка Скарыну**.*



***Абярэм Імя Беларусі разам!***

# ФРАНЬЦІШАК СКАРЫНА



Вялікі гуманіст?... Скарына, найвялікшы хрысьціянін, усё свае жыцьцё даваў адпор якраз усякім «гуманістам», што стагодзьдзямі высіляліся, каб чалавецтва забыла Бога.

Вялікі асьветнік?... Скарына, найвялікшы вернік, перакладчык, тлумачальнік і першадрукар Бібліі, нёс свайму часу не бязбожнае сьвецкае«асьветніцтва» – а сьвятасьць Боскага сьвятла.

Вялікі друкар?... Скарына, найвялікшы эвангеліст, у першую чаргу быў не тэхнаром, прадпрымальнікам ці выдаўцом – ён быў геніяльным місіянерам, які даў Усходняй Эўропе Кнігу Кнігаў, а беларускаму народу – Сьвятое Пісьмо на роднае мове, і тым узвысіў народ да нацыі!

Франьцішак Скарына – бясспрэчны лідэр беларускае гісторыі. Ключавая асоба нацыянальнай ідэі, адзін з правадыроў агульнаэўрапейскага хрысьціянскага Абуджэньня XV-XVI стст – як Мікелянджэла, Калюмб або Лютэр. Перакладнік, пісьменьнік, філёзаф, лекар – першы сярод усходніх славянаў доктар мэдычных навук, – мастак і батанік, місіянер і патрыёт, урэшце рэшт, палымяны нашчадак Ісуса Хрыста. Усясьветна прызнаны (1990 г. ЮНЭСКА абвясьціла годам Скарыны), шанаваны ўсімі канфэсіямі...

Словам, Скарына – гэта наша ўсё.

І рэфарматарства Мікалая Радзівіла Чорнага, і шчырасьць нашаніўцаў, і прынцыповасьць Пазьняка – усё гэта вы знойдзеце ў Скарыне. Чытайце – і ўбачыце.

Як палачанін, сын нашай першай хрысьціянскай сталіцы, праўнук Сафіі й Эўфрасіньні, Скарына сканцэнтраваў у сабе ўсю крынічную чысьціню й глыбокасьць беларускай духовай традыцыі.


БІВЛИЯ РУСКАЯ
ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНАГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГУ КО ЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ

Як Франьцішак, спадкаемца сьвятога Францыска Асізскага, што адрадзіў для сярэднявечнае простанароднае Эўропы ідэалы й дух часоў апостальскіх, Скарына таксама вяртаў паспалітаму люду Вялікага Княства Бога Жывога.

Як Скарына, ён зрабіўся нашай абавязковай скарынкай – і пачаткам, і верхам, і смакоцьцем у кожным кавалку хлеба.

Нарэшце, як Майстар, ён уласнаручна кшталтаваў да дасканаласьці і пераклад, і літары друку, і гравюры сваіх кнігаў, ствараючы, нацыянальныя скрыжалі, жывую клясыку– і нават ажаніўся з Маргарытай.

Сваім выданьнем «Бібліі Рускай» Скарына скарыў усю старазапаветную Літву перад Беларусьсю Новага Запавету – новай хрысьціянскай краінай. Гэтая «Біблія» на паўстагодзьдзі апярэдзіць і польскую, і расейскую.

Менавіта Скарына насьцеж распахнуў для Беларусі эпоху Залатога веку. Ягонае выданьне ў незьлічоных дзьвярох бачынак адкрывала Бога ўсёй краіне – а значыць, надавала беларусам самасьвядомасьці.

Скарына не стамляецца казаць нам каторы ўжо раз: «Понеже от прироження звери, ходящие по воздуху, ведають гнёзды своя, рибы, плавающие по морю и в



реках, чують виры своя, пчёлы и тым подобныя боронять ульев своих – тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають».

Першадрукі выданьняў Скарыны – з прадмовамі й тлумачэньнямі да Слова Божага, з выкшталцонымі шрыфтамі, высокамастацкімі застаўкамі, узорыстымі ініцыяламі й цудоўнымі гравюрамі, дзе кожная кніга была скарбам – адразу ўсталявалі для Беларусі самы высокі эўрапейскі стандарт кнігі й культуры слова наогул.

Усе канфэсіі Беларусі дагэтуль спрачаюцца за Скарыну. Пытаньне №1 нашае рэлігійнае гісторыі! Праваслаўныя дзеля царкоўнаславянскае асновы перакладу й полацкае традыцыі лічаць яго праваслаўным; каталікі, згадваючы лацінскае імя й сакратарства ў біскупа віленскага – каталіком, а пратэстанты, цытуючы Курбскага («Біблія Скарыны ва ўсім згодная зь Бібліяй Лютэра»), архімандрыта Сяляву ("Ваш Скарына – гусіт!»), прад'яўляючы шляхецтва, нададзенае герцагам-лютаранінам Альбрэхтам у Кенігсбэргу ды ўласна сам прынцып масавага друку на роднай мове – увогуле пратэстантам. У гэтым – увесь Скарына. Якраз у ягонае асобе максымальна выявілася ўнікальная беларуская Тройца, «сустрэча канфэсіяў», той цуд эвангельскае веры й любові, што імкне да вышыняў Божых і вядзе да хрысьціянскага адзінства. У геніі Скарыны Беларусь дасягнула трыюмфу міжканфэсійнага, нават надканфэсыйнага сынтэзу, і найярчэйшай ўспышкі нацыянальнае місіі.

Гэта – крэда Скарыны.

Гэта – сутнасьць Беларусі.

Скарына дагэтуль поўны таямніцаў, як і ўсякая глыба падобнага маштабу. Яшчэ не ўстаноўленыя даты яго нараджэньня і сьмерці. Яшчэ не расшыфраваныя ягоныя манаграмы. Пэўна невядома, пра што ён гутарыў зь Лютэрам, Альбрэхтам ды Парацэльсам. Схаваная і ягоная місіянерская выправа ў Маскву, дзе былі спаленыя ягоныя кнігі, і яго ўдзел у рэдагаваньні І Статуту ВКЛ, і праца каралеўскім садоўнікам у праскіх Градчанах на сконе дзён. Ён прыйшоў і сышоў незаўважна, ён рабіў і тварыў непрыкметна – каб, паводле Эвангельля, Адзінаму Богу дасталася ўся слава.

Кракаў, Падуя, Прага, Познань, Вільня, Кенігсбэрг, Масква... Геаграфія Скарыны пашырае межы Беларусі XVI ст. да памераў паловы Эўропы.

І быццам Праспэкт Скарыны, што йдзе скрозь усю сталіцу, праз цэнтральныя плошчы ды галоўныя скрыжаваньні, сам Францішак Скарына працінае гісторыю Беларусі хрыбетным, восевым шляхам. Праспэктам нацыянальнай ідэі, на якім стаяць помнікі й друкуюцца кнігі. Праспэктам, які злучае Дом Ураду з Акадэміяй Навук, які перакрэсьлівае Леніна й налыгвае колца Перамогі. Праспэктам, які зыходзіць з Плошчы Незалежнасьці – і цэліць проста ў Маскву.

*З кнігі Паўла Севярынца«Люблю Беларусь»*

# Д В У



Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ

***Дарагія чытачы!***

***Прапануем Вашай увазе ДВУБОЙ. Кожны нумар газэты два лідэры БХД спрачаюцца па найбольш вострых і важных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі, стасункі з ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне.***
***Пераможцу вызначыце Вы! Сёння – чацьверты чвэрцьфінал.***



## Наталля Васілевіч:
### «Мы павінны гарантаваць поўную бяспеку нашых суайчыннікаў»

НАТА – гэта ваенны альянс, які быў створаны пасля Другой сусветнай вайны дзеля абароны ад магчымай на той час пагрозы з боку СССР. Але час мяняецца, і ўжо амаль 20 год СССР не існуе. Змяніла за гэты час свае мэты і НАТА: сёння гэта арганізацыя змагаецца за мір ва усім свеце, супрацьстаянне тэрарызму, змяншэнне усеагульнай колькасьці зброі.

У нас есць які-някі, легітымны ці не, але афіцыйны прадстаўнік, які актыўна выказваецца на міжнародным узроўні пра саюз з Расеяй, фактычным супраціўнікам НАТА. У сенняшніх умовах нам, як краіне, якая знаходзіцца паміж двума вайсковымі сістэмамі, трэба вызначацца, як з найменшымі стратамі захаваць стабільнасць і мірнае неба над краінай. На мой погляд, з двух сістэм найбольш непрадказальнай, моцной, жорсткай з'яўляецца Расея, і наш ўваход у НАТА можа справакаваць непрадказальныя дзеянні з боку Расеі. Найперш трэба адказаць на пытанне, ці трэба нам такія канфлікты і што мы можам супрацьпаставіць гэтаму. Мне падаецца, што, нажаль, нічога. Да таго ж, мы ўжо падпісалі дамову з Расеяй аб узаемадапамозе ў выпадку ваеннай небяспекі, і скасаваць яе мірным шляхам нам будзе вельмі цяжка. Расея не пойдзе на такі крок. Гарантаваць жа поўную бяспеку НАТА пакуль нам не можа.

Да таго ж, з 1995 году Беларусь падпісала дамову з НАТА аб супрацоўніцтве у галіне супрацьстаяння тэрарызму, ўзбраення, гандалі людзьмі… З 20 вучэнняў, якія праводзіць штогод НАТА, мы ўдзельнічаем толькі ў двух! У астатніх, нажаль, удзельнічаць не можам з-за таго, што у нас не падпісаныя дамовы аб канфідэнцыйнасці тых найноўшых тэхналёгій, якія там прадстаўляюцца ці выпрабоўваюцца. У нас добрыя адносіны з краінамі-сябрамі НАТА, і у нас склалася досыць глыбокае супрацоўніцтва. Але на сённяшні дзень уваходзіць у гэты альянс для Беларусі дастаткова небяспечна. Мы павінны адказваць за свае дзеянні, але у складзе ваеннага альянсу голас адной краіны наўрад ці будзе пачуты.

Яшчэ адзін аспект, які цесна звязаны з супрацьстаяннем тэрарызму. Справа ў тым, што краіны-сябры НАТА часта падпадаюць пад розныя тэрарэстычны акты, у якіх гінуць ні ў чым не павінныя людзі. Гінуць сотнямі, часам тысячамі… Ці хочам мы трапіць у спіс краін, якія нічога не могуць рэальна супрацьстаяць у гэтай глабальнай вайне, але ставяць пад пагрозу жыцце сваіх суайчыннікаў? Трапіць у такі спіс лёгка – трэба ўсяго толькі ўступіць у НАТА. Ці хочам мы ставіць пад пагрозу жыццё нашых суайчыннікаў, нашых дзяцей? Хто адкажа за жыццё ні ў чым не павінных людзей? На мой погляд, мы не можам так рызыкаваць.

За гады жыцця у складзе СССР у беларусаў склаліся досыць моцныя стэрыатыпы, якія сёння не так легка перамагчы. Мы, як партыя, калі хочам атрымаць падтрымку і стаць вядучай палітычнай сілай, не можам пераконваць людзей гвалтам. Мы пакуль не маем дастатковых для гэтага сілаў, а такія глабальныя пытанні складаюць імідж партыі.

Расея ці НАТА? Выбар для беларусаў вельмі цяжкі. Нажаль ці не, але пакуль ён схіляецца на бок Расеі. Правільны гэты выбар ці не – пакажа час. Але пакуль мы павінны выбраць тое, што для нас найбольш бяспечна. Беларусь ужо перажыла дастаткова войнаў. Мы павінны забяспечыць спакойнае і стабільнае жыцце нашых суайчыннікаў.

# Б О Й

***Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон - +8 029 516 08 61, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці пошту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазначце прозвішча – за каго аддаеце Ваш голас).***
***Пераможца ДВУБОЮ па выніках Вашага галасаваньня выходзіць у наступны тур!***
***Таксама прымаюцца заяўкі на ўдзел у ДВУБОІ.***



***У трэцім чвэрцьфінальным Двубоі, прысвечаным пытаньню за ці супраць уступленьня Беларусі ў Эўразвяз, перамогу з лікам 65 : 51 атрымаў прыхільнік далучэньня да Эўрапейскага Зьвязу КАСТУСЬ ЖУКОЎСКІ.***

## Сяргей Ваўчок:
### «НАТА – Расея. З кім і куды мы ідзем?»



Беларусь прапагандуе сябе як міралюбівая і нейтральная краіна. Але мы бачым, што вакол нашага памежжа набірае моц барацьба паміж двума групоўкамі – НАТА і Расея. У такой сітуацыі можна разгледзіць нашы перспектывы на выжыванне як незалежнай і свабоднай краіны.

Беларусь – гэта невялікая краіна з невялікімі людскімі і эканамічнымі рэсурсамі. Нашыя магчымасці непараўнальныя з магчымасцямі краін НАТА і Расеі. Таму ў любы момант наша незалежнасць можа быць скасаваная і разбураная, як гэта было ўжо не раз у гісторыі краіны. Мы са сваім ваенным патэнцыялам не зможам супрацьстаяць ніводнаму з бакоў. Гэтую думку падцвярджае сітуацыя вакол Грузіі Украіны, Малдовы, Сербіі і інш.

Я лічу што адзіным гарантам незалежнасці Беларусі можа быць уваход краіны у альянс з тымі краінамі ці блокамі, якія сваім ваенным, эканамічным, палітычным патэнцыялам змогуць дапамагчы нам існаваць як нацыі. На сенняшні дзень гэта альбо Расея,альбо НАТА. Гэта не толькі ваенныя патэнцыялы – гэта ідэалагічныя сістэмы, краіны з рознымі паняццямі аб жыцця.

Расея – гэта пераемнік Імперыі і СССР. Больш за 200 гадоў Беларусь была яе часткай. Увесь гэты час мы знішчаліся як нацыя. Першая і Другая сусветныя войны не былі нам патрэбныя, але менавіта наша тэрыторыя была полем бітвы, нашы страты і разбурэнні былі жудасныя. З тых часоў сітуацыя мала змянілася. І зноу нам прапануюць стаць губерніяй, гаварыць на»родном языке», ваяваць за чужыя інтарэсы на ўсей шостай частцы зямлі, супрацьстаяць усяму свету і будаваць моцнае заходняе памежжа. Я думаю, такая палітыка не дасць нам міру, а зробіць ізгоямі цывілізаванага свету (КНДР, Куба, Іран і інш).

НАТА – гэта садружнасць самых развітых краін свету. Гэта дэмакратычныя і свабодныя краіны, дзе гарантуюцца і падтрымліваюцца асноўныя правы чалавека. Краіны НАТА ніколі не прапанавалі Беларусі стаць часткай іншай краіны, знішчыць наш сувернітэт і незалежнасць. Не сакрэт, што ваенны і эканамічны патэнцыял гэтай структуры непараўнальны з любымі іншымі краінамі і ваеннымі блокамі у свеце.

НАТА – гэта аб'яднанне свабодных і дэмакратычных краін, якое стваралася, каб супрацьстаяць дыктатарскай палітыцы СССР. Мэтай НАТА было абарона свабоды і дэмакратыі ва усім свеце. Калі мы называем і лічым сябе такімі, то нам дапамогуць у гэтай барацьбе.

За вялікую гісторыю Беларусі наша краіна ўжо не раз была пляцоўкай супрацьстаяння Захаду і Усходу, Эўропы і Расеі... Стаць ёй яшчэ раз? А мы і так ужо сталі гэтай пляцоўкай. Тут ужо іншае пытанне – з кім і куды мы ідзем. Яшчэ раз паўтаруся – альбо губернія, альбо незалежнасць. 200 гадоў павінны былі нас навучыць «справядлівасці і міласці» Расеі.

Калі мы жадаем быць свабоднай і незалежнай краінай, то і супрацоўнічаць мы павінны з свабоднымі і незалежнымі, а не з тымі хто падтрымлівае і будуе дыктатуру ва усім свеце.

На маю думку, у нас толькі два шляхі – альбо стаць губерніяй Расеі (ужо мабыць назаўжды), альбо супрацьстаяць гэтай імперскай і дыктатарскай палітыцы разам з НАТА.

# Пісьменьнікі-хрысьціяне аб'ядналіся



**У сядзібе на Машэрава, 8 адбылася прэзэнтацыя творчага аб'яднаньня пісьменьнікаў-хрысьціянаў«Дабравест».**

**Паэты, пісьменьнікі, барды кажуць, што насьпела неабходнасьць аб'ядноўвацца ў творчыя саюзы, каб словам папулярызаваць хрысьціянскія каштоўнасьці ў грамадзтве.**

Заснавальнікам аб'яднаньня-«Дабравест» зьяўляецца сустаршыня БХД **Павал Севярынец**. Ідэю стварэньня аб'яднаньня хрысьціянаў-пісьменьнікаў падтрымалі больш за 40 паэтаў і празаікаў.

**Павал Севярынец**:«*Ідэя стварыць аб'яднаньне пісьменьнікаў-хрысьціянаў узьнікла з таго відавочнага факту, што за тысячу гадоў існаваньня Беларусі хрысьціянская культура зьяўлялася галоўнай плыней хрысьціянскай культуры.*

*На жаль, у апошняе стагодзьдзе і асабліва ў апошнія гады мы бачым беларускую хрысьціянскую культуру на пэрыфэрыі. Для нас істотна, што беларуская нацыянальная сьвядомасьць можа фарміравацца перш за ўсё на гістарычных хрысьціянскіх каштоўнасьцях.*

*Таму адраджэньне нацыянальнай ідэі для нас неадрыўна ад ідэі адраджэньня хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, галоўнае культуры.*

*Мы запрасілі да ініцыятывы стварэньня аб'яднаньня«Дабравест» хрысьціянаў розных канфэсіяў. Гэта першая прэзэнтацыя. Вершы, песьні, проза — усё выконваюць хрысьціяне“.*

У актавай залі на сядзібе партыі БНФ не было вольных месцаў. Адзін за адным выступалі паэты, пісьменьнікі і барды. Вечарыну вяла паэтка і бард **Валерыя Кустава**. Яна прадстаўляла кожнага выступоўцу.

“Нашу арганізацыю дабраславіў народны паэт Беларусі **Рыгор Барадулін**, у творчасьці якога ці не найяскравейшым чынам выявілася яднаньне Беларусі і Бога.

Беларускія паэты — тыя самыя званары, у чыіх душах Бог і Беларусь ёсьць той асновай, той існасьцю, на якой яны стаяць, якой мацуюцца, пра якую яны гавораць іншым.

Адсюль, падаецца, вымалёўваецца новы лёзунг маладой Беларусі:«Будзьма беларусамі, будзьма з Богам“.

**Галіна Каржанеўская** прачытала свае вершы, прысьвечаныя тэме веры, суадносінаў чалавека і ягоных уяўленьняў пра свае месца ў гэтым сьвеце і стаўленьня да Бога.

“Дык няма нас, ці ўсё ж мы ёсьць?
Мо народзін працэс зацягнуўся?
Ну, яшчэ трошкі! Вось-вось
і разродзіцца Бог Беларусьсю.

Меў задуму, намеціў і грань,
назапасіў сабе матэрыялу.
Ты яму, Беларусь, памагай.
Ну, давай, бо, каб позна ня стала.»

Перад слухачамі выступіў са сваімі песьнямі, прысьвечанымі Богу, барды **Андрэй Мельнікаў** і **Тацяна Беланогая**.

Пра свой шлях да веры распавёў пісьменьнік **Міхась Кулеш**.

Свае творы чыталі аўтары **Эльвіра Ярчак, Барыс Жанчак, Мікола Бакас, Алесь Сьпіцын** і вядучая вечарыны **Валерыя Кустава**.

Сябры аб'яднаньня«Дабравест» выказалі сваю ўпэўненасьць у тым, што колькасьць пісьменьнікаў-хрысьціянаў павялічыцца і кола сяброў аб'яднаньня стане значна большым. Час ад часу«Дабравест» будзе ладзіць вечарыны для моладзевай аўдыторыі.

## Максім Багдановіч

# ЦЕМЕНЬ



Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок!
Над зямлёю- імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць!
Але вось цераз цемень маланка блішчыць,
Асьвячае мне вобраз Хрыста... яго крыж...
Ажываеш, здаецца, душою гарыш.
Але толькі чаму ж так малы гэты час?!
Зноў навокал цемень. Свет зірнуў і пагас.
Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста.
Над зямлёю імгла, у душы пустата.

*1909*

## Андрэй Цяўлоўскі

# НЕХТА

У світальным тумане губляюцца гукі:
Нат крычы – не пачуеш уласнага крыку.
Нехта цьмяны ступае па выстылым бруку.
Непахісны. Цяжкі. Неаглядна вялікі.

Нехта дыхае – роўна, бы дыхае вецер, –
Непазнаная постаць у шэрым адзенні.
Твар завешаны шчыльнай заслонай дасвецця,
Дзе святло аніяк не адрозніць ад цемры.

Па знямелых завулках туляюцца цені.
Нехта крочыць – слядоў разабраць немагчыма.
Ці бязмоўным прысудам, ці грозным знаменнем –
Акрываўлены крыж у Яго за плячыма.

## Алесь Спіцын



***

Мая душа не нараджала колас,
Пакуль яе да мяса не ўзараў.
Калі сарваў свой апярэтны голас
Я ад душы нарэшце заспяваў...

Мне шмат гадоў і не малы я днямі,
А пачынаю з чыстага ліста.
Я з абразоў садраў парчу і камні,
Каб мне за імі не забыць Хрыста...

Так! Многагрэшны я ў сваім штукарстве –
Пра што мне марыць і аб чым маліць?
Хай годныя раздзеляць Валадарства,
А мне б з Табою раны раздзяліць!

## «Шоў Беларушчыны»




Гэта беларуская па форме, хрысьціянская па зьмесьце дынамічная віктарына для школьнікаў і навучэнцаў з геаграфічнымі, гістарычнымі, літаратурнымі, музычнымі, спартовымі пытаньнямі, музычнымі перапынкамі з беларускімі хрысьціянскімі хітамі. Віктарына можа праводзіцца ў любой навучальнай установе як пазакласны ўрок. Пераможцы віктарыны атрымліваюць цудоўныя прызы – кнігі і дыскі.

**Віктарыну можна замовіць праз тэлефон: 8-029-765 36 92 (Ірына).**

## «Беларускі хрысьціянскі хіт»

Да Вялікадня выйшаў чарговы дыск з серыі«Беларускі Хрысьціянскі Хіт» пад назвай«Хрыстос уваскрос!» – чацьвертая зборка найлепшых беларускамоўных хрысьціянскіх сьпеваў, гэтым разам прысьвечаных сьвяту Уваскрасеньня Хрыстовага. Адабраныя паводле строгіх крытэраў песьні прайшлі ратацыю ў хрысьціянскіх фокус-групах (адпаведна, праваслаўнай, каталіцкай, грэка-каталіцкай, баптысцкай, пяцідзесятніцкай, поўнаэвангельскай і г.д.) - і вернікі самі вызначылі найлепшыя сьпевы. Найбольш хітовымі выканаўцамі слухачы прызналі гурты «Тэзаўрус», «Псальмяры», «DVA», «Небасхіл», «Кадаш». Сярод выканаўцаў – таксама Алеся Унукоўская, барды Андрэй Мельнікаў, Вальжына Цярэшчанка й Інэса Леаданская. Пачынаюцца ўсе дыскі «Беларускага Хрысьціянскага Хіта» гімнам «Магутны Божа»; завяршаюцца – сьпеўнай малітвай «Ойча наш». Рыхтуюцца да выданьня таксама іншыя дыскі гэтай сэрыі:»Беларускі Хрысьціянскі Рок», «Бардаўскі Хрысьціянскі Хіт» і «Беларускі Літургічны Сьпеў»-,«Люблю Беларусь». Зараз рыхтуецца пяты альбом сэрыі«Бардаўскі Хрысьціянскі Хіт». Наконт усіх прапановаў на гэтыя складанкі, а таксама па замовы першых 3-х дыскаў можна зьвяртацца па тэлефонах: **8-029-861-62-28, 8-029-656-00-64 (Валянціна).**

## Дарагія чытачы «Крыніцы»!

Аб'яднаньне пісьменьнікаў – хрысьціянаў, якое яднае паэтаў і празаікаў, вернікаў розных канфэсіяў, праводзіць сустрэчы зь патрыётамі ды моладзьдзю, рыхтуе да выданьня альманах«Дабравест». Калі Вы хочыце пазнаёміць шырокае кола чытачоў са сваёй творчасьцю – ласкава запрашаем да ўдзелу. Умова адна: беларуская форма – хрысьціянскі зьмест.

**Тэлефон: 8 029 200 34 36 (Зьміцер)**


КРЫНІЦА

ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ – КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ АД БХД



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 20 чэрвеня 2009
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.